ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Кніга Ноша

№ 34 кастрычнік, 2015

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**АЎТОГРАФ**

### Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 2015 год Святлана АЛЕКСІЕВІЧ:

## «Хочацца, каб беларусы адчувалі гонар за сябе і сваю краіну»

***8 кастрычніка ў Стакгольме было абвешчанае імя сёлетняга лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Пісьменніца Святлана Алексіевіч стала першай у гісторыі Беларусі лаўрэаткай найвышэйшай літаратурнай узнагароды свету.***

***На прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў гэты дзень Мінску, Святлана Аляксандраўна адказала на шматлікія пытанні журналістаў і чытачоў.***



### З падзякай да настаўнікаў Алеся Адамовіча і Васіля Быкава

– Калі дазналася пра атрыманне прэміі, ведаеце, я падумала не пра сябе. Адзін з нямецкіх тэатраў ставіць у Франкфурце спектакль па кнізе «У вайны не жаночае аблічча» і хацеў запрасіць на прэм’еру кагосьці з гераінь твора. З пяцідзесяці нумароў, якія я абтэлефанавала, – нікога ўжо няма ў жывых. Раней падобны досвед быў з героямі Чарнобыля. Першае падумалася: шкада, што гэтыя людзі не даведаюцца. Падумалася, што гэта ўзнагарода не толькі мая – гэта ўзнагарода нашай культуры, нашай маленькай краіны, якая цягам сваёй гісторыі ўвесь час перамолваецца ў жорнах. Вялікія цені пісьменнікаў-набелістаў – Буніна, Пастэрнака – ажылі для мяне. У час шматгадовай літаратурнай працы прыходзяць стома і расчараванне, а тут з’явілася радасць і разуменне, што планку немагчыма будзе панізіць. Хочацца, каб беларусы адчувалі гонар за самiх сябе і сваю краіну, – прызналася Святлана Алексіевіч.

– Першыя, каму хацелася б падзякаваць – маім настаўнікам Адамовічу і Быкаву. Быкаву за тое, што ён быў узорам чалавечай стойкасці. Адамовічу, які быў чалавекам еўрапейскага маштабу, за тое, што ён, як ставяць голас спеваку, так паставіў мне «машыну мыслення».

Таксама дзякую маім героям, маім выдаўцам па ўсім свеце, людзям, якія прымушалі мяне задумацца і дарылі мне нейкую здагадку пра чалавека.

### Пра мову і нацыянальную ідэнтычнасць

– Я пішу пра чалавека і ўтопію – 70 гадоў утопіі і пасля 20 гадоў, як мы выходзім з яе, – якая гаварыла на рускай мове. Мае героі вельмі розныя – беларусы, рускія, украінцы, цыгане – і ўсе яны размаўлялі па-руску.

Я пачуваюся чалавекам беларускага свету, беларускай стыхіі, у той жа час чалавекам рускай культуры, а таксама і чалавекам-касмапалітам. Апошняе якраз мне ўдалося зразумець пасля Чарнобылю, падчас напісання кнігі «Чарнобыльская малітва».

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кніганошы»:**

**Святлана Алексіевіч – празаік, публіцыст. Аўтар кніг «У вайны не жаночае аблічча», «Апошнія сведкі», «Цынкавыя хлопчыкі», «Чарнобыльская малітва», «Час second-hand» і інш. Нарадзілася ў 1948 годзе ў горадзе Івана-Франкоўску (Украіна). У 1950 годзе сям’я пераехала ў Беларусь. Жыве ў Мінску.**




**Несцярэнка Юры. Звычайны шоу-бізнес: апавяданні. Прадм. Л. Рублеўскай. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 156 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 64).**

Першая празаічная кніга пісьменніка і музыканта Юрыя Несцярэнкі «Звычайны шоу-бізнес», якую склалі апавяданні і навелы, уключае як аўтабіяграфічныя, так і па-мастацку змадэляваныя сюжэты. Практычна ўсе творы закранаюць тэму музыкі – рок, джаз, блюз ды іншыя альтэрнатыўныя жанры. Назва зборніка мае глыбока іранічны кантэкст, абумоўлены як асабістым досведам аўтара, так і агульнакультурнай сітуацыяй у Беларусі.




**Казкі майго горада: зборнік твораў выпускнікоў Школы маладога пісьменніка (2013–2014). Пад рэд. А. Казловай, А. Лазуткіна, А. Пашкевіча, А. Рудака, К. Шталенковай. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 120 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 65).**

Зборнік складаюць творы студэнтаў Школы маладога пісьменніка пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» 2013–2014 навучальнага года.




**Жуковіч Васіль. Арабінавая ноч: апавяданні, абразкі, аповесць. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 192 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 66).**

Гэтая кніга – пра чалавечнае і звярынае ў людзях, а значыць – пра дабро і зло. Дзе б ні дзейнічалі станоўчыя героі твораў Васіля Жуковіча – у бязмежжы беларускае рэчаіснасці ці на чужыне, яны і ў экстрэмальных умовах захоўваюць сваю самасць, супрацьстаяць разбуральным сілам і, праяўляючы моц духу, трывала перажываюць жыццёвыя нягоды.




**Галубовіч Леанід. Поўня: выбранае. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 144 с. (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 17).**

Зборнік выбранага Леаніда Галубовіча «Поўня» змяшчае ў сабе найлепшыя вершы аўтара (па яго версіі), напісаныя за трыццаць пяць гадоў, што ўваходзілі ў шэсць яго папярэдніх кніжак, а таксама «зацемкі з левай кішэні» з аднайменнага выдання, якія датычацца літаратурнай творчасці. Зрытмізаваная сэрцам і зарыфмаваная душой зямная філасофія жыцця разлічана на вузкае кола абазнаных прыхільнікаў краснага пісьменства.




**Мельнічук Іван. Добрыя падказкі: апавяданні, вершы, казкі, пераклады. Прадм., малюнкі Л. Валасюка. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 104 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 10).**

Разнастайныя жыццёвыя гісторыі, роздум аб пачутым і ўбачаным, сустрэчы з незвычайнымі людзьмі і абставінамі – усё, што складае змест гэтай кнігі, адрасавана дзецям школьнага ўзросту. Кніга вучыць школьнікаў быць не толькі кемлівымі, але і працалюбівымі, добрымі, спагадлівымі, любіць сваю краіну, яе прыроду, жывёльны свет.




**Пашкевіч Алесь. Рух: аповесць. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 120 с.**

Гэтая кніга – пра вынаходнікаў і нафтамагнатаў, паўстанцаў і цароў, разведчыкаў і здраднікаў, а найперш – пра тых, хто шчыра любіць сваю радзіму. Гэта, па сведчанні крытыкаў, «сучасны еўрапейскі раман, кампактны і цэльны, які зацягвае і не адпускае да самага фіналу... Твор напісаны яснай літаратурнай мовай, рухавым незамыленым стылем. Агулам ліха распрацаваны індустрыяльны сюжэт з некалькімі паралельнымі лініямі, якія сыходзяцца (і без кахання тут, зразумела, не абышлося). А што ўласна да беларусаў, то чытача прыцягвае скразная нацыянальная жылка, якая ўважна адмечана адным з герояў, што ўвасабляе наш народ і яго ментальнасць у яе лепшых праявах сярод народаў свету».




**Справа: альманах: вып. 2 – 2015. Гал. рэдактар А. Наварыч. – Мінск: Белпринт: Смэлтак, 2015. – 248 с.: іл.**

У другім выпуску альманаха «Справа» Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў змешчаны творы беларускіх і ўкраінскіх аўтараў, як прызнаных класікаў, так і маладых. Чытач знойдзе тут паэзію, прозу, эсэістыку, пераклады, навуковую публіцыстыку.




**Купала Янка. Тутэйшыя: выбраныя творы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 272 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Янка Купала заслужана лічыцца не толькі вялікім паэтам, але і творцам будучыні беларускай нацыі. Беларусацэнтрызм – тое, чым праснякнута ўся творчасць паэта-прарока, які прадбачыў галоўныя падзеі і з`явы XX стагоддзя – крывавыя катаклізмы і войны, таталітарызм і выдаткі глабалізацыі. Хто яны, «тутэйшыя» са знакамітай аднайменнай п'есы? Гэта мастацкі маркёр беларусаў, якія

адчулі сваю адметнасць, але не дайшлі да беларускасці. У кнігу выбраных твораў Народнага песняра Беларусі таксама ўвайшлі паэмы «Курган», «Яна і я», «Сон на кургане», «На куцьцю», «На Дзяды».




**Колас Якуб. Новая зямля. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 272 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Паэма Народнага паэта Беларусі Якуба Коласа «Новая зямля» – першы беларускі буйны эпічны твор. Гэта кніга, якая павінна быць у бібліятэцы кожнага, хто лічыць сябе беларусам. Не толькі таму, што гэта першая нацыянальная паэма, якую справядліва лічаць энцыклапедыяй жыцця беларускага сялянства, класічным творам нашай літаратуры, а перадусім таму, што гэта выдатная паэзія.




**Маўр Янка. Палескія рабінзоны. Сын вады. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 336 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Янку Маўра, які найперш пісаў для юных чытачоў, можна лічыць у беларускай літаратуры заснавальнікам прыгодніцкага жанру. Самая папулярная аповесць Маўра «Палескія рабінзоны» напісана ў найлепшых традыцыях раманаў Жуля Верна або Даніэля Дэфо. У кнігу таксама ўвайшла аповесць «Сын вады».




**Быкаў Васіль. Альпійская балада. Пакахай мяне, салдацік. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 304 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Васіль Быкаў – імя, вядомае ўва ўсім свеце. Ягоная праўда пра вайну заўсёды не проста ўражвала, яна – апякала. Ягоная глыбіня спасціжэння ўзлётаў і падзенняў чалавечае натуры ў нашай літаратуры не мае сабе роўных. У кнігу Народнага пісьменніка Беларусі ўвайшлі аповесці «Альпійская балада» і «Пакахай мяне, салдацік», у якіх закранаецца тэма вайны.




**Міцкевіч Адам. Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 384 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Эпічная паэма «Пан Тадэвуш» пісалася ў 1832–1834 гадах у Парыжы, дзе паэт жыў у эміграцыі. Дзеянне паэмы адбываецца на працягу 5 дзён у 1811 годзе і аднаго дня ў 1812-м на берагах Нёмана перад нашэсцем Напалеона на Расію. Галоўныя героі паэмы – Тадэвуш і Зося – прадстаўнікі дзвюх узаемаварожых шляхецкіх фаміліяў. Задума паэмы эвалюцыянавала з ідыліі ў шырокую эпічную карціну, якая спалучае бытавую, ваенную, любоўную і патрыятычную лініі.




**Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт. Пінская шляхта: выбраныя творы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 224 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Першы прафесіянальны беларускі пісьменнік новага часу Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч імкнуўся ахапіць сваімі творамі ўвесь абсяг беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Ён пісаў п’есы, оперныя лібрэта, вершаваныя аповесці і апавяданні, балады і вершы, частка з якіх увайшла ў гэты зборнік. Творы Дуніна-Марцінкевіча здольныя задаволіць густ кожнага чытача – аматара даўніны, прыхільніка літаратуры для душы і сэрца, цікаўнага школьніка і студэнта, літаратурнага гурмана.




**Мрый Андрэй. Запіскі Самсона Самасуя. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 176 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Андрэй Мрый напісаў унікальны не толькі для беларускай, але і для сусветнай літаратуры раман. Эксклюзіў у тым, што галоўны герой, прайдзісвет і авантурнік, выкрывае сам сябе, а заадно і сістэму, якая яго спарадзіла. Самсон Самасуй быццам вылузаўся з рамана і забіў свайго стваральніка: пісьменнік быў рэпрэсаваны, высланы і памёр падчас вяртання на радзіму.




**Кульбак Майсей. Зельманцы. – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 288 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

Майсей Кульбак (1896–1937) – сярод найбольш значных беларуска-яўрэйскіх пісьменнікаў, якія пісалі на мове ідыш. Жыццёвы шлях Кульбака трагічна абарваўся 29 кастрычніка 1937 года, калі былі расстраляныя 22 беларускія літаратары. Раман «Зельманцы» – гэта Атлантыда тагачаснага яўрэйскага жыцця, непаўторна і шматфарбна паказанага праз гісторыю старасвецкага мінскага двара.




**Гарэцкі Максім. Дзве душы. У чым яго крыўда? – Мінск: Папуры. Пры ўдзеле Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 256 с. – (Серыя «Мая беларуская кніга»).**

У кнізе аднаго з выдатнейшых дзеячаў у гісторыі беларускай культуры Максіма Гарэцкага, цікавага і непаўторнага пісьменніка, друкуюцца дзве аповесці, напоўненыя глыбокай сацыяльнай і філасофскай праблематыкай.

# Лаўрэатаў «Экслібрыса» ўганаравалі

**17 верасня ў галерэі сучаснага мастацтва «Ў» адбылося ўганараванне фіналістаў літаратурнага конкурсу «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна. Конкурс арганізаваны ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і праходзіць кожны год.**

Цягам паўгода, з 24 лютага, на пошту ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» маладыя літаратары дасылалі свае паэтычныя творы. Тэксты на ўмовах ананімнасці разглядала кампетэнтнае журы ў складзе Раісы Баравіковай, Леаніда Дранько-Майсюка, Вольгі Іпатавай, Наталкі Кучмель і Уладзіміра Някляева. 31 жніўня журы падвяло вынікі і абвясціла фіналістаў і пераможцаў.

Вечарына пачалася з прывітальнага слова Старшыні ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», галоўнага рэдактара часопіса «Дзеяслоў», празаіка Барыса Пятровіча: «Сёлетні чарговы, ужо сёмы, конкурс маладых літаратараў Саюз беларускіх пісьменнікаў прысвяціў памяці народнага паэта Рыгора Барадуліна. З усіх жанраў, у якіх працаваў Рыгор Іванавіч і дасягнуў найбольшых вышыняў, мы выбралі два: паэзія і пераклад. Пра паэта Рыгора Барадуліна добра ведаюць усе, а пра перакладчыка значна менш. Вось жа, Рыгор Іванавіч перакладаў з 37 моваў свету і ўсе пераклады былі зробленыя надзвычай па-майстэрску. Вядома, ён не валодаў усімі гэтымі мовамі дасканала, некаторыя кнігі перакладаліся ім з падрадкоўнікаў. Але нават і ў гэтым выпадку, як сцвярджаюць мовазнаўцы, Барадуліну ўдавалася зрабіць так, каб пераклад загучаў нават лепш за арыгінал. Што здараецца вельмі рэдка».

Старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» распавёў пра ўмовы працы журы, а таксама прадставіў яго публіцы. Ён павіншаваў усіх удзельнікаў, фіналістаў і пераможцаў: «Дзякуй, што вы наважыліся прыняць удзел у гэтым саперніцтве. Жадаем вам поспехаў і плёну. Надалей заставайцеся ў літаратуры!»

Першых дыпламантаў назвала сябра журы, паэтка, лаўрэатка Дзяржаўнай прэміі Беларусі па літаратуры Раіса Баравікова: «Праца была няпростая, праца была вельмі цікавая. І сапраўды выключна ананімная. Як ні дзіва, думкі ў журы збольшага супалі».

Раіса Андрэеўна ўручыла дыплом і падарункі ад ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» фіналістцы конкурсу Яне Мацюшавай, якая прачытала верш «Беларусам».

Потым Раіса Баравікова паклікала на сцэну за ўзнагародай паэтку і перакладчыцу Ганну Комар, якая дасылала на конкурс перастварэнні з амерыканскага паэта Чарлза Букоўскі. Яна зачытала верш Букоўскі «Святло, і паветра, і месца, і час».



Валярына КУСТАВА.



Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ.

Сябра журы, паэт Леанід Дранько-Майсюк успомніў гады вучобы ў маскоўскім Літінстытуце імя Горкага на пачатку 1980-х гадоў і размовы рускіх літаратараў пра талент Рыгора Барадуліна, «які носіць на плячы каляровы мех, поўны нечаканых рыфмаў»: «Калі я чытаю пераклады Рыгора Барадуліна, мне хочацца танцаваць і плакаць. Я хацеў бы звярнуць увагу маладых на паэтычны сінтаксіс. Я, чытаючы тэксты намінантаў конкурсу, не раз успамінаў пра тое, што сінтаксіс у кожнай мовы свой. І каб добра пісаць, трэба пастаянна думаць пра беларускую нацыянальную сувязь слоў у сказе, кожны дзень чытаць беларускія слоўнікі». Леанід Дранько-Майсюк уручыў дыплом фіналістцы ў намінацыі «Паэзія» Алісе Мінінай.

У намінацыі «Пераклад» сябра журы ўручыў дыплом Арцёму Сітнікаву. Апошні, з увагі на тое, што перакладае рок-паэзію, выйшаў на сцэну з гітарай і праспяваў перастваронаныя ім па-беларуску песні Барыса Грабеншчыкова і Боба Дылана.

Паэтка і кніжны рэдактар з шматгадовым стажам Наталка Кучмель у цёплай і таварыскай форме моцна пакрытыкавала дасланыя на конкурс творы, працягнуўшы лінію Леаніда Дранько-Майсюка: «Грамадзяне-маляты, я асабіста для сябе адзначыла: а) беднасць мовы, б) нервовасць і торганасць. Сінтаксісам нельга пагарджаць. Перакладчыкі, гонячыся за дакладнасцю ў рыфме і сэнсе, забываюцца на мілагучнасць. Не павінен чытацца пераклад так, нібыта асцюкі жуеш».

Атрымаўшы ад Наталкі Кучмель дыплом, фіналістка Ганна Станіславенка прызналася, што ўсё сказанае журы адносілася нібыта да яе і яна ў далейшым будзе звяртаць на мову большую ўвагу. Ганна Станіславенка прачытала верш, прысвечаны Рыгору Барадуліну.

Дыпломам фіналіста і падарункамі быў адзначаны і перакладчык Аляксей Лабоцкі, які зачытаў па-беларуску ўрывак з перакладу «Скіфаў» Аляксандра Блока, адзначыўшы надзённае гучанне твора ў час.

Апрача жывых выступаў, гледачоў чакалі сюрпрызы ў выглядзе відэапрывітання фіналісткі Анхелы Эспінасы Руіз, падарункі для якой пераняў прысутны ў залі ейны прыяцель і прамоўтар Кірыла Камароўскі.

Геаграфію вечарыны пашырыў і гукавы зварот з Італіі ад Яўгеніі Асколкавай, якая была адзначана журы за пераклады з італьянскага паэта Джузэпэ Джардзіна. Свае прывітанні на словах перадалі сябры журы Вольга Іпатава (з Канады) і Уладзімір Някляеў, які знаходзіўся ў гэты час на літаратурным фестывалі ў Румыніі.

Урэшце, вядоўцы вечарыны Аляксандра Дварэцкая і Віка Трэнас запрасілі на сцэну кіраўніцтва ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» – Барыса Пятровіча і Алеся Пашкевіча, якія ўручылі прызы пераможцам: Валярыне Куставай за паэзію і Алесю Емяльянаву-Шыловічу за пераклады з польскай літаратуры: Эвы Ліпскай, Адама Загаеўскага і Галіны Пасвятоўскай.

Валярына Кустава, працягнуўшы гаворку пра геаграфічную разнастайнасць вечарыны, адзначыла, што цудам паспела, бо яшчэ ўдзень знаходзілася ў Варшаве. Вершы яна адбірала, паводле яе словаў, «разам з Музам», які з 40 тэкстаў крытычна адклаў у бок амаль палову. Для яе конкурс быў у навіну, бо ў падобных спаборніцтвах яна не прымала ўдзел ужо вельмі даўно, «таму гэта быў своеасаблівы эксперымент». Пераможца таксама прачытала некалькі сваіх вершаў пра каханне.

Тлустай кропкай у вечарыне стаў выступ гурта Сяржука Доўгушава і гурта Harmonic Style Project, які выступіў з праграмай на вершы Рыгора Барадуліна «Песні матчыны з Вушаччыны» і прывёў залу ў поўнае захапленне, заахвоціўшы да спеваў нават старэйшае пакаленне беларускіх літаратараў.

**Тэкст: ЦЧ, фота: ВТ, для lit-bel.org**




**Запруднік Янка. Па гарачых слядах мінуўшчыны: Мае лісты 1952–1959 гг. Універсітэт у Бэльгіі, газэта «Бацькаўшчына», радыё «Вызваленьне/Свабода» ў Мюнхэне й Нью-Ёрку. Рэд. і прадм. В. Трыгубовіч. – Мінск: Лімарыус, 2015. – 572 с.: іл. (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 26).**

Кніга доктара Янкі Запрудніка (26-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») з'яўляецца зборам эпісталярыяў аўтара, напісаных цягам 1952–1959 гг. з Бельгіі, Нямеччыны і ЗША. Адрасаты – суродзічы-беларусы ў розных краінах Еўропы, Амерыкі, Аўстраліі, з якімі абмяркоўваліся тэмы грамадска-культурнага і асабістага жыцця. Лісты адлюстроўваюць тэмы і праблемы, якімі жыў і сам аўтар, і беларуская эміграцыя на Захадзе ў 1950-х гг.




**Чыгрын Сяргей. Мора Віктара Шведа: артыкулы і гутаркі. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 32 с.**

Кніжку склалі матэрыялы, прысвечаныя жыццю і творчасці старэйшага беларускага паэта з Беластока (Польшча) Віктара Шведа, які 23 сакавіка 2015 года адзначыў сваё 90-годдзе. У кнігу ўвайшлі артыкулы аўтара і гутаркі, напісаныя ім у розны час.




**Падліпскі Аркадзь. Мікалай Нікіфароўскі: Даследчык народных звычаяў і фальклору. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Этнограф і фальклярыст Мікалай Нікіфароўскі (1845–1910) належыць да таго старэйшага пакалення знакамітых навукоўцаў і краязнаўцаў канца XIX – пачатку XX стст., якое сваімі даследаваннямі стварыла беларускую этнаграфію. Працамі Нікіфароўскага і сёння карыстаюцца даследчыкі культуры беларускага народа.




**Пінчук Міхаіл. Аркадзь Смоліч: Найлепшы знаўца беларускай зямлі. – Мінск: «Харвест», 2015. 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Аркадзь Смоліч (1891–1938) – таленавіты навуковец, географ і эканаміст, краязнаўца, педагог, аўтар бессмяротнай «Геаграфіі Беларусі» (1919). Таксама ён адзін з бацькоў Беларускай Народнай Рэспублікі, міністр асветы, потым міністр сельскай гаспадаркі яе ўрадаў. У часы сталіншчыны Смоліч стаў ахвярай рэпрэсіяў, якія вынішчылі беларускіх інтэлектуалаў і прыхільнікаў незалежнасці Беларусі.

**Мельнікаў Ігар. Мяжа ля Заслаўя 1921–1941 гг. – Мінск: Галіяфы, 2015. – 328 с. [25] арк.: іл.**




У кнізе аналізуюцца малавядомыя факты гісторыі савецка-польскага памежжа ў раёне Заслаўя ў 1921–1941 гг. Вялікая ўвага надаецца гісторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны час, працэсу стварэння савецкіх абарончых умацаванняў на мяжы з Польшчай пад Мінскам, падзеям уз'яднання заходнебеларускага рэгіёна з БССР у верасні 1939 года, а таксама гераічнай абароне Заслаўя ў чэрвені 1941 года.




**Андрусышын Юля. Забыццю не адданае. Прадм. Багдан Андрусышын; камент. Валянціна Трыгубовіч. – Мінск: Лімарыус, 2015. – 184 с.: іл.**

Юля Андрусышын, успаміны якой сталі асноваю гэтай кнігі, знаная сярод амерыканскіх беларусаў як цудоўны майстар народных вышывак. У сучаснай Беларусі яе ведаюць перадусім як маці славутага спевака Данчыка (Багдана Андрусышын). Але біяфафія Юлі Андрусышын мае таксама шмат іншых цікавых старонак. У радаводзе перапляліся чатыры шляхецкія роды: Луцкевічы – Песлякі – Шабуні – Каралёвы. І праз лёсы папярэднікаў выразна прасочваецца ўвесь драматызм, часам – трагізм жыцця беларусаў у XIX–XX стст. Дванаццацігадовай дзяўчынкай Юля пакінула родны Мінск, каб наведаць яго зноў толькі праз 45 гадоў разам з дарослым і славутым сынам. Адметны лёс!




**Кіпель Вітаўт. Жыць і дзеіць: успаміны. Прадмова Янкі Запрудніка. – Мінск: Зміцер Колас, 2015. – 442 с., [29 л.] іл.**

У кнізе ўспамінаў «Жыць і дзеіць» адзін з вядучых дзеячоў беларускай эміграцыі доктар Вітаўт Кіпель прыгадвае сваё дзяцінства ў Мінску і ў расійскай высылцы, юнацтва ў акупаваным Мінску, маладосць у Нямеччыне і Бельгіі і сталае жыццё ў Злучаных Штатах – амаль стагоддзе беларускай гісторыі, дзе аўтар, чалавек незвычайнага лёсу, быў у гушчы падзеяў палітычнага, грамадскага і культурнага жыцця. Адрасуецца ўсім, хто цікавіцца пытаннямі гісторыі, культуры і арганізацыі жыцця беларускай дыяспары за мяжой.




**Касцюк, М.П. Шлях да ісціны: гістарычная навука Беларусі ў канцы XX – пачатку XXI ст. – Мінск: Экоперспектива, 2015. – 252 с.**

Развіццё гістарычнай навукі – складаны працэс, асабліва ў пераходныя перыяды. З пачатку 1990-х г. Рэспубліка Беларусь фарміравалася як маладая, суверэнная дзяржава. Разам з дадзеным працэсам адбывалася станаўленне беларускай гістарычнай навукі, заснаванай на ўласным поглядзе на сваё мінулае. Пра гэтае гаворыцца ў прапануемым выданні.




**Янушкевіч Андрэй. Ула: гістарычны нарыс. Прадм. У. Арлова. – Мінск: А. М. Вараксін, 2015. – 56 с.: іл. – (Славутыя бітвы).**

Падчас Інфлянцкай вайны, у студзені 1564 года, Масковія распачала новую ваенную кампанію. Дзве непрыяцельскія арміі павінны былі злучыцца пад Оршай і, выкарыстоўваючы тактыку выпаленай зямлі, ісці на Менск, Навагрудак і Вільню. На гэты выклік захопнікі атрымалі годны адказ на рацэ Уле, дзе былі разбітыя ліцьвінскім войскам найвышэйшага гетмана Мікалая Радзівіла Рудога і польнага гетмана Рыгора Хадкевіча. Працягам Ульскага трыумфу нашай зброі праз некалькі дзён сталася Аршанская бітва 1564 года, якая канчаткова пахавала планы Масквы і аднавіла ў супрацьстаянні бакоў ваенную раўнавагу. Падзеі таго часу аднаўляе вядомы гісторык Андрэй Янушкевіч.




**Роўэл Стэфан Крыстафер. Уздым Літвы. Паганская імперыя ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, 1295–1345. Пераклад з англійскай мовы Алеся Мікуса. – Мінск: Медысонт, 2015. – 423 с.**

У даследаванні паказваецца, як Вялікае Княства Літоўскае ўпершыню набыло вагу на міжнароднай арэне. Разглядаецца шлях Літвы да веліч пад уладай Гедыміна, а таксама закранаюцца дасягненні яго папярэдніка і брата Віценя (1295–1315) і яго выбранага наступніка Яўнута (1342–1345). Найбольшая ўвага надаецца таму, як Вялікае Княства выкарыстоўвала вайсковыя і палітычныя слабасці суседзяў, маніпулявала канфесійнымі межамі каталіцтва ў Прыбалтыцы і праваслаўя на Русі, а таксама яго дыпламатыя ў адносінах з замежнымі ўладарамі, якія былі гатовыя як выступіць разам з паганамі-літоўцамі (і жаніцца з паганскімі князёўнамі), так і падтрымліваць крыжовыя паходы супраць іх.




**Лапцік Вячаслаў. Нарач горка плача: навукова-папулярныя нарысы і эсэ. – Мінск: Ковчег, 2015. – 220 с.**

У сваіх навукова-мастацкіх нарысах, апавядаючы пра прыгажосць і непаўторнасць нарачанскага краю, аўтар падрабязна спыняецца на экалагічных праблемах гэтага чароўнага куточка беларускай зямлі.

**Аляхновіч, Р.А. Род Іллінічаў у Вялікім Княстве Літоўскім у XV–XVI стст.: радавод, гербы, уладанні. Р.А. Аляхновіч, С.А. Рыбчонак, А.І. Шаланда; склад. А.І. Шаланда; навук. рэд. М.Н. Гальпяровіч. – Мір: Музей «Замкавы комплекс «Мір», 2015. – 374 с.: іл. – (Серыя «Genus Albaruthenicum»).**




Калектыўная манаграфія прысвечана гісторыі старажытнага беларускага шляхецкага роду Іллінічаў, прадстаўнікі якога на працягу XV–XVI стст. уваходзілі ў склад паноў-рады вялікага князя літоўскага, аказвалі ўплыў на ўнутраную і знешнюю палітыку Вялікага Княства Літоўскага, пакінулі значны след у беларускай культуры. Іллінічы з'яўляліся будаўнікамі і першымі ўладальнікамі Мірскага замка, атрымаўшы тытул графа на Міры. Разглядаюцца такія аспекты як генеалогія, геральдыка, маёмасны стан роду Іллінічаў, а таксама даюцца грунтоўныя жыццеапісанні яго славутых прадстаўнікоў. Для гісторыкаў і шырокага кола чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй Бацькаўшчыны, а таксама праблемамі беларускай генеалогіі, геральдыкі і сфрагістыкі.




**Церабун Уладзімір. На хвалях часу: старонкі творчасці. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 70 с.: іл.**

Кніга ўяўляе з сябе своеасаблівы аповед пра гісторыю мастацкага жыцця Уладзіміра Церабуна. Увазе чытача прапануюцца фотаздымкі знакамітых працаў беларускага скульптара, усталяваных у розных гарадах Беларусі. Кніга змяшчае і выявы працаў з жанраў станковай скульптуры і дробнай пластыкі, вырабаў з керамікі, а таксама жывапіс і малюнкі Уладзіміра Церабуна.




**Навумчык Сяргей. Дзевяноста чацьверты. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. – 350 с.: іл.**

У 1994 у Беларусі першы і адзіны раз адбыліся прэзідэнцкія выбары. Карнавал дэмакратыі, які ператварыўся ў хаўтуры – вачыма ўдзельніка. Кніга заснавана на дакументах і размовах з удзельнікамі і сведкамі тых падзей, праілюстраваная цікавымі фотаздымкамі.




**Навумчык Сяргей. Дзевяноста пяты. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. – 320 с.: іл.**

У 1995 годзе ў Беларусі прайшоў першы рэферэндум, які зліквідаваў статус нацыянальных сімвалаў як дзяржаўных, загнаў мову ў гета, прывязаў краіну да Расіі, а прэзідэнту адчыніў дзверы да неабмежаванай улады.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:
**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademkniga@tut.by, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43
**«Кніжны салон»,** г. Мінск, вул. Калініна, 5; e-mail: stival.salon@gmail.com, тэл.: +375 17 385 60 89
А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, ebooks.prestigioplaza.com і e-kniga.by

■ ПОГЛЯД

# Кніга людской удзячнасці...




**Духу магутныя чары...: Ларыса Геніюш ва ўспамінах, лістах, архіўных матэрыялах. Уклад., прадм., камент. Міхася Скоблы. – Мінск: Лімарыус, 2015. – 415 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

У кнізе змешчаныя ўспаміны Рыгора Барадуліна, Адама Мальдзіса, Масея Сяднёва, Паўліны Мядзёлкі, Міхася Чарняўскага, Вольгі Іпатавай, Зянона Пазняка, Аляксея Марачкіна, Дануты Бічэль, Уладзіміра Арлова, што друкаваліся раней у біяграфічным альманаху «Асоба і час», а чатырнаццаць успамінаў былі напісаныя адмыслова для гэтай кнігі.

Асобны раздзел склалі адрасаваныя Ларысе Геніюш лісты Канстанціна Езавітава, Уладзіміра Караткевіча, Язэпа Найдзюка, Фёдара Янкоўскага, Міколы Прашковіча, Алеся Траяноўскага ды інш.

Раздзел «Dubia» ўтрымлівае артыкул Ларысы Геніюш «Ці наступіць гэты доўгачаканы рашучы паварот?», які ў 1971 годзе вывез з Зэльвы Васіль Быкаў ды перадаў на захаванне Нілу Гілевічу, а народны паэт (праз больш за 40 гадоў) уручыў укладальніку гэтай кнігі для публікацыі. Артыкул прысвечаны становішчу беларускай культуры і мовы, панаванню рускай мовы ва ўсіх сферах жыцця і не згубіў, на жаль, сваёй актуальнасці і цяпер.

У дадатку да кнігі змешчаныя архіўныя тэксты, што друкуюцца ўпершыню ды істотна дапаўняюць жыццяпіс Ларысы Антонаўны: лісты «Максім Танк – Аляксею Карпюку», «Аляксей Карпюк – Пятру Глебку», «Аляксандр Калодка – Янку Запрудніку», верш Міколы Ермаловіча «Ятвягі», артыкул Арсеня Загорнага (псеўданім Янкі Запрудніка) «Памерла Ларыса Геніюш», а таксама артыкулы Міхася Скоблы, што прагучалі на радыё «Свабода» ў цыкле перадачаў да 100-годдзя Ларысы Геніюш у жніўні 2010 г., публікуюцца пад агульным загалоўкам «Чайка з лётам арліным: гісторыі з жыцця Ларысы Геніюш».

**А.С.**

■ АЎТОГРАФ

# «Хочацца, каб беларусы адчувалі гонар за сябе і сваю краіну»

*(Пачатак на стар. 1)*

Знаходзячыся ў радыяцыйнай зоне, не адчуваеш канкрэтную нацыянальнасць, а хутчэй бачыш роўнасць усяго жывога ў адным агульным свеце – чалавека, жывёлы, расліны. Усё гэта разам – ува мне.

**Пра супраціўленне сістэме**

– Ніхто не любіць праўду, але я заўсёды гавару тое, што думаю, таму, верагодна, у прэсе пішуць шмат спрэчнага пра маё стаўленне як да расіян, так і да беларусаў. Насамрэч я люблю і рускі народ, і беларускі. Мае сваякі па бацькоўскай лініі – беларусы, у чацвёртым пакаленні я вясковы настаўнік, мой прадзед вучыўся з Якубам Коласам, і гэта мая радзіма, мая зямля. У той жа час, мае бабуля і маці – украінкі, і калі я нядаўна была на Майдане і бачыла фотаздымкі маладой Нябеснай Сотні, то плакала – бо гэта таксама мая зямля.

У наш час складана быць праўдзівым чалавекам. Важна не паддавацца на згодніцтва («соглашательство»), на якое заўсёды разлічвае таталітарная ўлада. У гэтым плане паказальная кніга «Сумленне нацыстаў» пра тое, як нацызм прыходзіў у жыццё звычайных немцаў у 1920-я гады. Спачатку агітацыя не працавала, але ідэалагічная машына магутна набірала хуткасць, націскаючы на кнопкі найпрасцейшых чалавечых інстынктаў, і за 10 гадоў нацысты зрабілі зусім іншы народ.

Чалавекам заставацца заўжды страшна і складана, нават тады, калі няма масавых палітычных рэпрэсій, як у 1930-я, аднак жа і ў наш час саджаюць і ў Беларусі, і ў Расіі. Але варта мець мужнасць, каб супраціўляцца сістэме і таму, што могуць гаварыць у СМІ.

**Пра творчыя задумы**

– У цяперашні час працую над дзвюма кнігамі, якія закранаюць метафізічную тэматыку. Хаця і жывем мы так, як у показцы: пачынаецца ўсё добра, а заканчваецца аўтаматам Калашнікава – але саспела новае пакаленне, іншыя людзі, якія хочуць быць шчаслівымі, умеюць радавацца жыццю, вандруюць па свеце. Таму першая з кніг, над якімі я працую, – пра каханне (мужчыны і жанчыны распавядаюць гісторыі кахання). Другая з іх – пра старасць, знікненне, канец жыцця, канцэпт паміранння і смерці. І калі да другога твора, напрыклад, руская чытацкая публіка гатовая, то да першага – да жадання і ўмення быць шчаслівымі – не.

**Пра маральных аўтарытэтаў**

– Нашыя магікане – прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі – памерлі няўчасна, на жаль. Як нам не хапае Адамовіча, Быкава, іх слова, іх разумення, іх узроўню! Некаторыя рэчы не былі б дазволеныя, не сталіся б магчымымі, калі б яны былі цяпер з намі. Мы не можам сабе дазволіць такую творчую адвольнасць, як, напрыклад, мае сябры, нямецкія пісьменнікі, якія едуць за горад і пішуць, займаюцца літаратурнай гульнёй, эстэтыкай. Мы маем недасканалае грамадства, недасканалы час, і хаця я зусім не барыкадны чалавек, але час цягне на барыкады, бо сорамна за тое, што адбываецца.

**Пра «рускі свет» і «чырвонага чалавека»**

– Мне імпануе добры гуманітарны рускі свет, перад якім да гэтае пары схіляецца сусветная грамадскасць – класічная руская літаратура, музыка, балет, – і абсалютна не блізкі рускі свет Берыі, Сталіна, Пуціна.

Канцэпт «чырвонага чалавека», якога я даследую ўжо шмат гадоў, – гэта фундамент постсавецкага сучаснага грамадства, гэта тое, што актуальна і цяпер, тое, адкуль мы выйшлі. Таталітарызм аднолькава разбэшчвае і ката, і ахвяру. Мы жывем у траўмаваны перыяд. Мы прыбітыя да савецкага досведу, нават самыя маладыя з нас. У гэтым сэнсе паказальная сітуацыя ў Расіі, калі 86% насельніцтва радуюцца развязанай на Украіне вайне, падтрымліваюць тое, што адбываецца на Данбасе.

Савецкі час мы пакуль да канца не асэнсавалі. Яшчэ сто салжаніцыных маглі б апісваць і даследаваць яго. Болей за 70 гадоў, мільёны загінулых. Ідэя, якая пачыналася з жадання пабудаваць Горад Сонца, а закончылася вялікай крывёй, патрабуе глыбокага аналізу. Тое, што мне ўдалося зразумець, у сваім цыкле з пяці кніг пра чырвонага чалавека я выказала. Магчыма, настаў час выказацца камусьці яшчэ.

**Віка Трэнас, для lit-bel.org**

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ



**Гарбузік: літаратурна-забаўляльны дзіцячы альманах. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»). – 30 с.**

Новы літаратурна-забаўляльны, яркі і пазнавальны дзіцячы альманах «Гарбузік» выйшаў у кніжнай падсерыі «Каляровы ровар». Яго прыдумалі вясёлыя бацькі для дапытлівых дзетак, неабыякавых выхавальнікаў ды іншых мам і тат! Новы папяровы сябра «Гарбузік» падрыхтаваў для цікаўных, разумненькіх і актыўных маленькіх беларусаў найлепшыя спосабы прабавіць вольны час. Ён навучыць лічыць і выразаць аўтарскія выцінанкі Вольгі Бабурынай, майстраваць папяровыя замкі і рашаць касмічныя задачкі, апавядзе, як адрозніць правую руку ад левай і лёгка засвоіць новыя англійскія словы!



**Наталля Русецкая. Каштаны ў кішэнях. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 144 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»); вып. 15.**

Пасля даволі зацяглага перапынку ў Бібліятэчцы «Дзеяслова» выйшла новая паэтычная кніга. Падаецца, зададзеная аўтарамі папярэдніх зборнікаў планка трымаецца. Кнігу склалі творы, напісаныя ў прасторы паміж Менскам і Люблінам. Паэзія Наталлі Русецкай – гэта блюз. Той самы блюз, калі добраму чалавеку кепска. Я-гераіня яе вершаў, падкрэслена жаноцкіх, – напаўпразрыстая істота, якая, падобна, сышла з палотнаў імпрэсіяністаў. Пры гэтым, маем той усцешлівы й нячасты выпадак, калі «паэзія пераўзыходзіць майстэрства» (А. Разанаў). Хаця і з тэхнікай у тэкстах Н. Русецкай усё ў парадку.



**Новы замак: літаратурны альманах. Гродна. MMXIV. №3 / укл. С. Астравец. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 212 с.**

Пабачыў свет «Новы Замак» №3, які выдаецца Гарадзенскім абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў і асвятляе культурнае жыццё рэгіёна. На старонках альманаха, рэдактарам якога выступіў Юрка Голуб, а укладальнікам Сяргей Астравец, можна пабачыць тэксты 26 аўтараў.

Значнае месца адводзіцца паэзіі і прозе, а таксама дзённікам і сучасным мемуарам. Напрыклад, чытач знойдзе ў новым нумары ўспаміны пра Васіля Быкава, істотная частка жыцця якога звязаная з Гародняй. Гарадская, а таксама гістарычная тэматыка прываблівае аўтараў «Новага Замка». З'явіліся новыя рубрыкі – «Фарбы Панямоння», у якой выказваюцца мастакі пра ўласнае бачанне краявідаў і архітэктуры Гародні, і Civitat Grodnensis, куды ўвайшлі матэрыялы, прысвечаныя легендам і нядаўняму мінуламу горада.

Рэдакцыйная рада альманаха запрашае да супрацоўніцтва мясцовых беларускамоўных аўтараў. Дык далучаймася!

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 34
кастрычнік, 2015
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 34 28.10.2015.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com